Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# ГАНДЛЁВЫ БЮЛЕТЭНЬ

НАРКАМУНУТГАНДЛЯ БССР

РЭДАКЦЫЯ І КАНТОРА

г. Менск, Дом Урада, левае крыло, 4 паверх, комн. № 405.

тэл. № 23-287.

№ 25-26 | Год выдання 1-ы | 30 Верасня 1935 г. | № 25-26

## За большэвіцкае выкананне пастановы СНК БССР аб рабоце прамкааперацьыі.

Роля прамкаапераацыі ў справе далейшага разгортвання тавараазвароту і павялічэння рыначных фондаў тавараў шырспажыва становіцца асабліва адказнай у сувязі з гістарычнай прамовай т. СТАЛІНА на XVII з'ездзе УсеКП(б), які высунуў важнейшую задачу рашучага разгортвання вытворчасці прадметаў шырспажыва па лініі мясцовай прамысловасці і прамкаапераацыі, як састаўнай і арганічнай яе часткі.

Праведзеная Наркамгандлем БССР па заданню урада праверка работы прамкаапераацыі выявіла рад апартуністычных скажэнняў у рабоце гэтай сістэмы, недаацанўшай палітыка-гаспадарчага значэння партыйных і ўрадавых дырэктыў аб разгортванні вытворчасці прадметаў шырспажыва і ўглядзеўшай сваю задачу толькі ў колькасным выкананні прамфінплана без учота таго, ці пойдзе выпрацованая ею прадукцыя на шырокі спажывецкі рынак або на патрэбы ўнерыначнага спажывання.

Такая „лінія", адбыўшая па сутнасці справы анцідзяржаўную тэндэнцыю ў рабоце сістэмы прамкаапераацыі, прывяла да адмаўлення ад разгортвання вытворчасці тавараў шырспажыва, да ўвілівання ад заключэння дагавароў з гандлюючымі арганізацыямі БССР і ігнарыравання ўзятых на сабе перад імі абавязкаў нават у межах заключаных дагавароў.

Перш за ўсё гэта лінія знайшла свой яскравы выраз у зніжаных праектыроўках па вытворчасці тавараў шырспажыва.

Акрамя таго, паасобным арганізацыям даваліся прыуменшаныя заданні па заключэнню дагавароў з гандлюючымі арганізацыямі. У выніку некаторыя арцелі (Віцебская скураабутковая арцель „Возрождение" і інш.) значную частку сваёй рыначнай прадукцыі збывалі Белдзяржснабу, які гэту прадукцыю скарыстоўваў па лініі прамысловага спажывання.

Гомельскі скурпрамсаюз у гэтых адносінах перашчагаляў Віцебскую арцель, прадаўшы ўне плана прамысловым арганізацыям 50—60% сваёй прадукцыі.

Тэндэнцыя выканаць прамфінплан за лік якой угодна сыравіны (давальчаская, самазагатоўленая, адыходы прамысловасці) адарвала прамкаапераацыю ад рынка і канкрэтнага спажыўца, прымусіўшы яе прынімаць ад унерыначных спажыўцоў заказы на ізгатаўленне бялізны і спецвопраткі з іх сыравіны замест таго, каб разгарнуць самазагатоўкі сыравіны і вышукваць адыходы прамысловасці для выканання праграмы выпуска рыначнай прадукцыі.

Больш таго, Гомельскі Швейпрамсаюз адпусціў НКПС і НКЗдраву на 1 355 тыс. руб. прадукцыі ізгатоўленай з планавай сыравіны, прызначанай для шырспажыва.

На жаль гэтыя антыдзяржаўныя тэндэнцыі ў рабоце паасобных арганізацый прамкаапераацыі сустрэлі поўную дапамогу ў вышэйшых яе звеннях.

Лагічнае завяршэнне гэтай нэпманскай лініі ў рабоце паасобных звенняў прамкаапераацыі мы бачым у практыцы выпуска прадукцыі нізкай якасці, спекулятыўнага ўздування цэн на рад тавараў, гандля таварамі не сваёй вытворчасці і г. д.

Па дакладу Наркамгандля СНК БССР вынес спецыяльную пастанову аб рабоце прамкаапераацыі. Гэта пастанова, друкуемая ў гэтым нумары бюлетэня, намячае большэвіцкую праграму перабудовы работы прамкаапераацыі ў напрамку ажыццяўлення ею партыйных і ўрадавых дырэктыў па далейшаму разгортванню тавараазвароту.

Пастанова СНК БССР высоўвае перад сістэмай прамысловай каапераацыі рад адказных задач. Перш за ўсё, неабходна самым рашучым чынам выкараніць усе антыдзяржаўныя тэндэнцыі ў рабоце паасобных звеньяў прамкаапераацыі і павярнуць іх тварам да патрабаванняў рынка.

Тавары шырспажыва павінны стаць асноўнай вытворчасцю прамкаапераацыі. У гэтым асноўны сэнс пастановы СНК БССР.

Гэта пастанова таксама абавязвае прамкаапераацыю ўзяцца за асваенне новых промыслаў на базе скарыстання мясцовай недэфіцытнай сыравіны і г. д.

Прамысловая каапераацыя БССР мае ўсе магчымасці для выканання ўсіх тых задач, якія пастаўлены СНК БССР па далейшаму павышэнню матэрыяльнага ўзроўня працоўных БССР.

На выкананне гэтага важнейшага ўрадавага рашэння павінна быць звернута ў першую чаргу ўвага ўсёй сістэмы прамкаапераацыі.

А.

# У НАРКАМУНУТГАНДЛІ БССР

Аргкамітэт Слуцкага округа згадзіўся з прапановай Наркамунутгандля БССР аб вылучэнні неабходных сродкаў на будаўніцтва ў Слуцку продмага Белхарчгандля і прамтаварнага ўнівермага Белгандля.

Пашырэнне і абсталяванне дзяржаўнай гандлёвай сеткі намечана таксама і ў Мозыры і Полацку.

* * *

Вытвараная Наркамунутгандлем БССР праверка хода тавараразварота па Добрушскаму раёну выявіла выключна безабразнае становішча гандля ў гэтым раёне. У сетцы Белхарчгандля адсутнічаюць такія тавары, як рыба, кансервы, маргарын, калбасныя вырабы, соль, запалкі і г. д. Сетка Белгандля ў Добрушскім раёне сістэматычна не выконвае плана тавараразварота з-за адсутнасці разгорнутага асартымента тавара. У продажу зусім адсутнічае газа.

Наркамунутгандаль БССР с пецыяльнай пастановай ад 7 верасня намеціў цэлы шэраг практычных мерапрыемстваў па аздараўленню гандлёвай сеткі і разгортванню гандля ў Добрушскім раёне, вылучыўшы яму адначасова з свайго рэзерва дадатковыя фанды прод. і прам. тавараў.

* * *

Наркамунутгандаль БССР арганізаваў рад брыгад, на якія ўскладзена задача па вывучэнню і выяўленню ўсіх магчымасцей беларускай прамысловасці ў галіне пашырэння асартымента і палепшання якасці вытвараемых ёю тавараў для прад'яўлення прамысловасці на 1936 год канкрэтызаваных патрабаванняў, адбіваючых зрухі ў спажывецкім попыту.

* * *

З прычыны наяўнасці паасобных фактаў сабатажа ў справе разгортвання гандля гароднінай,—Наркамунутгандаль БССР вылучыў брыгады для праверкі ў асноўных гарадах БССР падрыхтаванасці гароднехавальнікаў і гандлёвай сеткі і прыняцця аператыўных мер па выкананню ўсіх нарадаў на адгрузку гароднiны і папярэджанню іх псавання.

* * *

У мэтах разгортвання гандля плодагароднінай, Наркамунутгандаль БССР на падставе пастановы СНК БССР арганізаваў спецыяльную гасп. разліковую розьнічную кантору Белгародгандля, на якую ўскладзена ў першую чаргу пашырэнне да 15 верасня сеткі па гандлю плодагароднінай у Менску, Віцебску, Гомелі, Магілеве, Оршы і Мозыры.

* * *

За дапушчэнне аптовай прадажы фуража, Наркамунутгандаль БССР абвясціў дырэктару Менхарчгандля тав. **Рысю** суровую вымову з папярэджаннем.

* * *

Для акруговых цэнтраў Лепеля і Слуцка Наркамунутгандаль БССР устанавіў цэны і гандлёвыя накідкі, існуючыя ва ўсіх гарадах БССР.

* * *

Згодна пастановы Наркамунутгандля БССР, арганізуецца гандаль мясам у Бабруйску, Оршы і Барысаве, дзе павінны быць адчынены па два магазіна, і ў Рэчыцы і Полацку, дзе адчыняецца па аднаму магазіну.

* * *

Вытвараная Наркамунутгандлем БССР праверка работы Менскага трэста кафэ і рэстаранаў выявіла рад безабразных з'явішч, а іменна: сістэматычнае невыкананне плана тавараразварота, злачынная пастаноўка абслугоўвання ў летняй сетцы трэста, выразіўшаяся ў продажу несвежай і псаванай прадукцыі, бытавое разлажэнне сярод паасобных работнікаў, якія ўстраівалі папойкі і оргіі, страта ў 62 тыс. рубл. як рэзультат растрат, перавыдатка па выдаткам зварота, выключная запутанасць бухгальтэрыі і г. д.

У выніку праверкі Наркамунутгандаль БССР зняў з працы дырэктара трэста тав. **Гофмана**. Зняты таксама з працы заг. аддзелам снабжэння трэста тав. **Гінзбург** і кладаўшчык рэстарана „Европа"— **Каменецкі**. Перададзены пракурору для прыцягнення да судовай адказнасці справы аб галоўным бухгальтэры трэста т. **Сагаловічы**, бухгальтэры рэстарана „Европа" **Шкадзінскім**, работніках трэста **Ліўшыц**, **Бумагінай**, **Леонавай** і інш.

Адначасова з гэтым Наркамунутгандаль БССР намеціў рад канкрэтных мерапрыемстваў па аздараўленню работы Менскага трэста кафэ рэстаранаў.

Усе гэтыя мерапрыемствы зацверджаны і адобраны Наркомам Унутранага Гандля Саюза ССР тав. **Вейцэрам.**

* * *

Наркамунутгандаль БССР абавязаў Менскі і Віцебскі Горунутгандлі разгарнуць у гэтых гарадах гандаль сенам праз сістэму дзяржгандля і спажывецкую кааперацыю. Норма водпуска сена ў адны рукі ўстаноўлена ў размеры 200 кгр.

* * *

Наркамунутгандль абавязаў збытавыя арганізацыі (Рыбзбыт, Табакгандль, Хлопказбыт, Белкаапмалако і інш.) пад асабістую адказнасць кіраўнікоў прадстаўляць рэгулярна звесткі Наркамунутгандлю аб адгрузцы тавараў за кожныя 15 дзён. Звесткі павінны дасылацца не пазней 20 і 5 кожнага месяца.

* * *

Наркамунутгандль БССР абавязаў ОРС'ы і іншыя гандлюючыя арганізацыі, якія маюць на станцыях чыгункі і на вакзалах кіоскі і ларкі, забяспечыць сталую наяўнасць і шырокі продаж пасажырам поўнага асартымента хлеба і хлеба-булачных вырабаў.

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Прамкааперацыя—тварам да рынку

### Пастанова Совета Народных Камісараў Беларускай ССР

31 жніўня 1935 г. — № 1399 — гор. Менск.

### „Аб рабоце прамкааперацыі БССР па выпрацоўцы і рэалізацыі прадметаў шырспажыва за першае паўгоддзе 1935 года“.

Совет Народных Камісараў БССР адзначае:

1. Што большасць спецсаюзаў і арцеляў прамкааперацыі не выканалі ўрадавага задання па здачы рынчнай прадукцыі тавараправодзячай сеці БССР у выніку чаго па ўсей сістэме праскааперацыяй недадана гандлёвым сістэмам за 1-е паўгоддзе 1935 г. тавараў на суму каля 10 млн. руб.

Асабліва дрэнна выконваюць планы здачы прадукцыі тавараправодзячай сеткі Аршанскі, Віцебскі і Гомельскі Швейпрамсаюзы; арцелі „Вперед“ „Пралетары“, „Чырвоны Рымарнік“, „Гомтэкстыль“.

2. Белкааппрамсовет і яго асобныя галінныя саюзы скажаюць палітыку партыі і ўрада ў пытаннях выраба і рэалізацыі тавараў шырспажыва, аб чым сведчаць факты загрузкі вытворчасці заказамі па выпрацоўцы прадметаў унерыначнага спажывання (арцель „Вперед“, Гомшвейсаюз, Аршанскі Швейсаюз), масавага продажа Віцебскім, Гомельскім Скурпрамсаюзамі і многімі арцелямі рыначнай прадукцыі прамысловым арганізацыям (Белдзяржснаб, Арцемугаль і інш.). Па шэрагу арцеляй прамкааперацыі да гэтага часу яшчэ не ізжыты нэпманска гандлёвыя тэндэнцыі, в якімі кіраўніцтва Белкааппрамсовета не вядзе рашучай барацьбы.

3. Белкааппрамсовет і спецпрамсаюзы не забяспечылі належнага выканання неаднаразовых рашэнняў СНК БССР і ЦК КП(б) Бел. аб якасці, асартыменце і цэнах на прадукцыю прамкааперацыі, у тым ліку і рашэння СНК БССР ад 7/VI г. г, дапусціўшы шэраг скажэнняў у практыцы работы арцеляў у выглядзе ўздування цэн(арцель „Чырвоная Полаччына“), ігнараванння выпрацоўкі вырабаў дзіцячага асартымента (арцель „Чырвоны кастрычнік“—Орша, „Чырвоны Абутнік“—Менск).

Разам з гэтым СНК БССР адзначае выключную бяздзейнасць у барацьбе за планава дагаворную дысцыпліну і якасць прадукцыі межрайбаз Белкаапсаюза і Белгандля (Гомель, Віцебск, Полацк, Магілеў) і шэраг нізавых гандлюючых арганізацый, якія не гледзячы на шэраг дапушчаных з боку асобных звенняў прамкааперацыі парушэнняў планава-дагаворнай дысцыпліны, не прад'явілі за першае паўгоддзе 1935 г. ніякіх іскаў прамкааперацыі за зрыў выканання дагавароў і дрэнную якасць работы.

Совет Народных Камісараў БССР ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1. Абавязаць Прэзідыум Белкааппрамсовета т. БЕНЬКОВІЧА забяспечыць бязумоўнае выкананне праграмы выраба прадметаў шырспажыва за другое паўгоддзе гэтага года.

Папярэдзіць тав. БЕНЬКОВІЧА, кіраўнікоў спецпрамсаюзаў і арцеляў, што праграма будзе лічыцца выкананай толькі пры ўмове, калі арганізацыі прамкааперацыі забяспечаць праграму вытворчасці рыначнай прадукцыі і здачу апошняй гандлюючым арганізацыям у суадпаведнасці з устаноўленым планам размеркавання.

2. Абавязаць Белкааппрамсовет тав. БЕНЬКОВІЧА—забяспечыць, каб сыравіна, атрымоўваемая ў цэнтралізаваным парадку, загатаўляемая арганізацыямі прамкааперацыі,—скарыстоўвалася выключна для вытворчасці прадметаў шырспажыва і ўстаноўленых планам унерыначных фандоў, забараніўшы ўсякае іншае, унепланавае скарыстоўванне сыравіны.

3. Забараніць прамкааперацыі якую-бы там ні было прадажу рыначнай прадукцыі на ўнерыначныя мэты,

Даручыць НК Унутранага Гандля і НК Мясцпрома праверыць збытавую работу Белдзяржснаба ў частцы рэалізацыі прадукцыі—прамкааперацыі і ў выпадку ўстанаўлення фактаў пераключэння рыначных фандоў на прамспажыванне, прыцягнуць да адказнасці віноўных у гэтым асоб.

4. Абавязаць Белкааппрамсовет т. БЕНЬКОВІЧА ў адпаведнасці з зацверджаным планам вытворчасці распрацаваць сумесна з спецсаюзамі і па ўзгадненню з НК Унутранага Гандля вызначыць кожнай арцелі аператыўнае заданне па здачы тавараправодзячай сетцы прадукцыі шырспажыва ў II паўгоддзі 1935 года.

5. Абавязаць тав. БЕНЬКОВІЧА ўстанавіць сістэматычны кантроль за ходам выканання паасобнымі арганізацыямі прамкааперацыі планаў вытворчасці і збыта прадметаў шырспажыва па рыначнаму фонду.

6. Прапанаваць Белкааппрамсовету, па ўзгадненню з НК Унутранага Гандля ўстанавіць мінімальны цвёрды процант дзіцячага асартымента ў агульнай праграме па асобным відам вырабаў, пераключыўшы рад арцеляў выключна на выраб дзіцячага абутка і адзення.

7. Абавязаць Дзяржплан, НКМясцпром і НКУнутранага Гандля пры размяркаванні адходаў вытворчасці прадпрыемстваў саюзнай і мясцовай прамысловасці, не плануемых саюзнымі арганізацыямі абавязкова ўстанаўліваць асартымент прадукцыі, які павінен

быць выпрацаван з гэтых адыходаў для здачы гандлюючым арганізацыям.

Устанавіць, што з усёй сумы адыходаў швейнай і скураабутковай прамысловасці прамкааперацыі павінна адпускацца не менш 60 %.

8. Даручыць Уп. НК Цяжпром тав. ПЛЕШАКОВУ праверыць скарыстанне адыходаў вытворчасці на фабрыцы Могвалакно і аб выніках далажыць СНК БССР да 10/IX-35 года.

9. Даручыць Начальніку Інспекцыі НК Легпрома СССР т. ПЕХЦЕРАВУ ўстанавіць сістэматычны кантроль за выкананнем прадпрыемствамі НКЛегпрома пастановы ЦВК і СНК СССР ад 1 чэрвеня г. г. за № 9/1053 і забяспечыць, каб адыходы іх вытворчасці, а таксама не менш 30% уціля збіраемага Саюзуцілем па БССР і могучага быць пераапрацаваным на месцы,—былі перададзены прадпрыемствам мясцовай прамысловасці і прамкааперацыі.

10. Адзначаючы недастатковае разгортванне і выключна слабую работу харчсмакавых арцеляў прамкааперацыі прапанаваць Белкаапрамсовету і НК Унутранага Гандля безадкладна распрацаваць мерапрыемствы, забяспечваючыя поўнае скарыстанне закансерваваных пекарань, кандзіцерскіх і іншых прадпрыемстваў прамкааперацыі па пераапрацоўцы гародніны, ягад, мяса асабліва ў раёнах і мястэчках; канкрэтна—ўстанавіць асартымент вырабаў, які павінен выпрацоўваць харчсмакавыя арцелі прамкааперацыі.

Абавязаць НК Унутранага Гандля БССР аказаць прамкааперацыі БССР патрэбнае садзейнічанне ў атрыманні неабходнай сыравіны для разгортвання работы гэтых арцеляў.

11. Даручыць Белкааппрамсовету ў месячны тэрмін прадставіць Дзяржплану БССР матэрыялы па пытанню арганізацыі вытворчасці скурсурагатнай пасты, на базе скарыстоўвання хромавай стружкі—адыходаў скураабутковай прамысловасці НКМясцпрома і інш. новых промыслаў, як мастацкія ткані, паліваныя ганчарныя вырабы і г. д.

12. Адзначаючы адсутнасць належнай дапамогі арганізацыям прамкааперацыі з боку НКМясцпрома БССР, горсоветаў і Райвыканкомаў—СНК абавязвае НК Мясцпром тав. БАЛЦІНА, старшынь Горсоветаў і РВК узмацніць сваю ўвагу рабоце прамкааперацыі, аказваючы ёй практычную дапамогу ў пытаннях вышукання сыравіны, арганізацыі вытворчасці і стварэнню неабходных іншых умоў для плодатворнай работы арцеляў.

Устанавіць персанальную адказнасць старшынь горсоветаў і РВК за дапушчэнне высяленняў арцеляў з займаемых імі памяшканняў. У выпадках асобнай неабходнасці высяленне можа вытварацца толькі з згоды Белкааппрамсовета, або спецсаюза пры ўмове абавязковага прадстаўлення арцелі ўзамен раўнацэннага памяшкання.

13. Даручыць Упаўкамзаг СНК тав. ГВАЗДЗЕЦКАМУ праверыць маючыйся матэрыял аб незаконным атаварванні арганізацыямі прамкааперацыі скурзагатовак і прыцягнуць віноўных у ажыятажы да суровай адказнасці.

14. Прапанаваць Белкаапсаюзу—тав. ШАБОЛТАСУ, Белгандлю т. КАНТАРУ і кіраўнікам іншых гандлюючых арганізацый прыцягнуць да адказнасці віноўных у парушэнні дагаворнай дысцыпліны—не прад'яўленні ніякіх іскаў арганізацыям прамкааперацыі за невыкананне ўстаноўленай колькасці здачы прадукцыі і дрэнную якасць.

Абавязаць т. т. **Шаболтаса**, **Кантара** і кіраўнікоў астатніх гандлюючых арганізацый удзяліць асаблівую ўвагу гандлю вырабамі прамкааперацыі.

15. Абавязаць тав. **Бенськовіча** забяспечыць неадкладнае спыненне скажэнняў совецкай палітыкі цэн і выпуска недабраякаснай прадукцыі на рынак арганізацыямі прамкааперацыі, папярэдзіўшы яго, што побач з прыцягненнем да судовай адказнасці асоб, непасрэдна віноўных у скажэнні совецкай палітыкі цэн і выпуска на рынак брака, СНК будзе прыцягваць таксама да адказнасці членаў Прэзідыума Белкааппрамсовета за невыкананне неаднаразовых рашэнняў урада па гэтаму пытанню.

16. Прызнаць далейшае існаванне аб'яднання Белкааппрамсовета — Белкааппрамснабгандаль — нямэтазгодным. Прапанаваць Белкааппрамсовету рэарганізаваць Белкааппрамснабгандаль у госразліковую снабжэнчанскую кантору, із'яўшы з яго ведання рознічную сетку і канцэнтруючы ўсю гандлёвую дзейнасць праз рознічную сетку арцелей—спецсаюзаў.

Даручыць НКУнутранага Гандля сумесна з Белкааппрамсоветам адпаведна перагледзець план рознічнага гандля па лініі прамкааперацыі і ўстанавіць парадак скарыстання сеткі Белкааппрамснабгандля.

17. Адзначаючы нездавальняючае становішча гандлёвай сеткі прамкааперацыі (антысанітарыя, гразь і г. д.), абавязаць Белкааппрамсовет тав. **Бенськовіча** неадкладна прыняць неабходныя меры да ўпарадкавання гандлёвай сеткі сістэмы ў адпаведнасці з запатрабаваннямі культурнага гандля.

18. За скажэнне палітыкі партыі і ўрада ў пытаннях збыта прадукцыі прамкааперацыі даручыць Белкааппрамсовету зняць з работы старшыню Гомельскага Швейпрамсаюза **Лейбовіча** і старшыню арцелі „Кааперацыйны шлях“ Гомельскага скурпрамсаюза **Фарберава**; старшыні Гомельскага Скурпрамсаюза **Партону**—абвясціць суровую вымову.

Абавязаць Прэзідыум Белкааппрамсовета прыцягнуць да суровай адказнасці астатніх работнікаў арцеляў і саюзаў, парушыўшых пастановы ўрада па пытанням вытворчасці і збыта прадметаў шырспажыва.

19. Тав. **Бенськовічу**—старшыні Белкааппрамсовета за адсутнасць кіраўніцтва збытавой работай прамкааперацыі—паставіць на від і папярэдзіць, што ў выпадку паўтарэння падобных з'явішч, ён будзе прыцягнут да адказнасці.

Старшыня Совета Народных Камісараў
Беларускай ССР
**М. Галадзед.**

Кіраўнік спраў СНК БССР
**І. Лук'янчык.**

# Ачысціць прамкааперацыю ад класава-чуждага і спекуляцыйнага элемента

## ПАСТАНОВА

### Прэзідыума Белкааппрамсовета ад 5|IX-35 г.

1. Прэзідыум адабрае пастанову СНК ад 31/VIII г.г. і абавязвае ўсіх кіраўнікоў прамсаюзаў і арцеляў да 10 верасня г. г. шырока прапрацаваць пастанову СНК БССР і артыкул т. Верба сярод апарата і арцельшчыкаў. Намеціць канкрэтныя мерапрыемствы па пашырэнню выпуска прадукцыі шырспажыва, палепшанню якасці прадукцыі і забяспечанню зніжэння сабекаштоўнасці.

2. Даручыць Аргсектару Белкааппрамсовета разам з планавым сектарам у месячны тэрмін праверыць работу Менскага Швейсаюза, Менскурсаюза, Бабруйскага швейсаюза, Аршанскага швейсаюза, Металасаюза і Бытсаюза ў частцы выканання дырэктыў партыі і ўрада ў справе выпуска шырспажыва, яго асартымента і якасці прадукцыі і арганізацыі новых вытворчасцей на мясцовай недэфіцытнай сыравіне. Адначасова скласці канкрэтныя заданні кожнаму саюзу паасобку на IV квартал па здачы прадукцыі гандлюючым арганізацыям.

3. Абавязаць Старшынь Прамсаюзаў бязумоўна забяспечыць выкананне дагавароў, заключаных з гандлюючымі арганізацыямі на 1935 год па здачы прадукцыі шырспажыва. Адначасова правесці у месячны тэрмін праверку работы ўсіх арцеляў па выкананню плана і ўсіх якасных паказчыкаў. Пры выяўленні скрыўленняў палітыкі партыі і ўраду ў справе выпуска прадукцыі шырспажыва і спекуляцыйна-нэпманскіх элементаў,—зараз-жа знімаць іх з работы і прыцягваць да адказнасці.

4. Даручыць Планаваму Сектару БКП разам з Прамсаюзамі ў месячны тэрмін распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы:

а) у частцы арганізацыі новых прадпрыемстваў і пераключэння асобных арцеляў з дэфіцытнай сыравіны на менш дэфіцытную сыравіну.

б) У частцы арганізацыі новых арцеляў у тых раёнах, сельскіх мясцовасцей і мястэчках, дзе маецца рабочая сіла некааперыраваных саматужнікаў.

5. Абавязаць Планавы Сектар і Белкааппрамснаб забяспечыць сваечасовае атрыманне планавых кантынгентаў вылучанай сыравіны, а таксама сваечасовае атрыманне ад мясцовай дзяржаўнай прамысловасці адыходаў.

6. Абавязаць кіраўніцтва Белкааппрамснаба т. Шварца і Адамчук не пазней 1 кастрычніка г. г. правесці рэарганізацыю Белкааппрамснабгандля, заставіўшы сабе функцыі снабжэння План рэарганізацыі прадставіць на разгляд Прэзідыума Белкааппрамсовета да 10 верасня.

7. Прэзідыум Белкааппрамсовета адзначае, што не гледзячы на шэраг указанняў у частцы ачышчэння прамкааперацыі ад класава-чуждага і спекуляцыйнага элемента, асобнымі кіраўнікамі прамсаюзаў і арцеляў не вядзецца рашучай барацьбы з гэтымі элементамі. Папярэдзіць усіх кіраўнікоў Прамсаюзаў і арцеляў, што ў выпадку выяўлення фактаў засоранасці кіраўнікі будуць прыцягвацца да адказнасці ўплоць да зняцця з работы.

8. Даручыць Старшыне Будкерамсаюза т. Шэрману ў 10-ці дзённы тэрмін правесці абследванне Касцюковіцкіх і Клімавіцкіх арцеляў, зараз-жа выключыць з членаў арцеляў класава-чужды элемент, прыцягнуць да адказнасці за фармальны падход і страту класавай пільнасці асоб, якія праводзілі справаздачна-перавыбарчую кампанію і дапусцілі да кіраўніцтва рэвізыйнай камісіі кулака, пазбаўленага выбарчых праў.

9. Лічыць неабходным прапрацаваць пастанову СНК на сходах прамактываў і ўдарнікаў—арцельшчыкаў. Правядзенне сходаў даручыць наступным таварышам: Менск—Шапіра, Віцебск — Азаркевіч, Гомель—Паўленка, Магілеў—Сындэр, Орша—Сындэр, Бабруйск—Шапіра.

10. Скласці камісію па рэарганізацыі Белкааппрамгандля і перадачы яго рознічнай сеці ў складзе наступных т. т.: ад Прэзідыума—т. Шапіра, ад Белкааппрамснабгандля — т. Адамчук, ад Планавага аддзела—т. Кантаровіч.

11. Абавязаць саюзы штомесячна дасылаць кан'юнктурныя абзоры становішча забяспечэння сыравінай і хода выканання дагавароў па збыту. Тав. Гольбіну—забяспечыць атрыманнне гэтых аглядаў і штомесячна дакладваць Прэзідыуму.

12. Даручыць т. Безносаву ў месячны тэрмін прапрацаваць пытанне ў частцы забяспячэння поўнага скарыстання закансервіраваных пекарань і прадпрыемстваў па пераапрацоўцы гародніны, ягад, мяса ў раёнах і мястэчках, канкрэтна ўстанавіць асартымент вырабаў, якія павінны выпрацоўваць харчсмакавыя арцелі прамкааперацыі. Матэрыялы прадставіць да 1 кастрычніка.

13. Даручыць т. т. Кікоіну і Леснеўскай праверыць становішча цэн па металсістэме да 15 верасня і аб выніках далажыць Прэзідыуму.

14. Даручыць т. Жытомірскаму, Сорыну і Партону выявіць канкрэтных віноўнікаў разбазарвання прадуктаў шырспажыва, а таксама парушыцеляў палітыкі цэн, прыцягнуць да крымінальнай адказнасці і аб прынятых мерапрыемствах далажыць Прэзідыуму.

Нам. старшыні Прэзідыума
Белкааппрамсовета **Міронаў.**

Сакратар **Палойка.**

# Аб скарыстанні сеці Белпрамгандля

## Пастанова Народнага Камісарыята Унутранага Гандля БССР

## № 614

15 верасня 1935 г. г. Менск.

У выкананне рашэння СНК БССР аб рэарганізацыі Белпрамгандля, Наркамунутгандаль БССР і Белпрамснабгандаль—пастанаўляюць:

1 Розьнічны гандаль Белпрамгандля ліквідаваць, пачынаючы з 15 верасня г. г. скончыўшы ліквідацыю функцый розьнічнага гандля і перадачу сеці да 1/X г. г.

2. Тавары, знаходзячыяся ў сеці—перадаць арганізацыям, якім перадаюцца магазіны з таварамі і абсталяваннем з тым, што каштоўнасць абсталявання ўстанаўліваецца камісіяй з удзелам Горунутгандля, прадстаўніка Белпрамснабгандля, прадстаўніка прымаючай арганізацыі (тавары, залежаўшыяся ці брак таксама прымаюцца з уцэнкай па акту камісіі ў такім-жа складзе).

3. Устанавіць ніжэйнаступны парадак перадачы памяшканняў, з'яўляючыхся уласнасцю Белпрамснабгандаля, (пабудаваныя за ўласныя сродкі, ці па доўгатэрміновым крэдытам банка):

а) У выпадку перадачы памяшкання, пабудаванае за лік доўгатэрміновых ссуд банка, ссуды переаформіць на прымаючую арганізацыю.

б) Памяшканні пабудаваныя за лік уласных зваротных сродкаў Белпрамснабгандля—перадаць у уласнасць прымаючых гандлюючых арганізацый з устанаўленнем сум каштоўнасці, перадаваемых памяшканняў з ацэнкай камісіяй у паказаным вышэй складзе, пры чым пакрыцце каштоўнасці павінна вытварацца у растэрміноўкі, на працягу 2-х год, аформіўшы абавязацельства на выплату на імя Белпрамснаба.

Тэрміны і размеры ўзносаў устанаўліваюцца камісіяй на месцы.

4. Прапанаваць Горунутгандлям і прадстаўнікам Белпрамснабгандля на месцы перадаць ніжэйнаступныя магазіны:

### па г. Менску.

Магазін № 1 па Ленінскай вул. перадаць Белгандлю пад прамтаварны гандаль.

Магазін № 5 па Ленінскай вул. перадаць Белбытсаюзу пад музычныя тавары і цацкі.

Магазін № 3 перадаць Белгандлю пад аддзел скур—галантарэі, побач з знаходзячымся магазінам скур-абутковым.

Магазін № 2 перадаць па бутэрбродную трэста кафэ-рэстаранаў;

Магазін № 4 па Камунальнай вул. перадаць Уцільжыркосці.

Астатнія па г. Менску Горунутгандлю т. Саф'яну скарыстаць па свайму ўгледжанню.

### па г. Віцебску.

1. Лічыць мэтазгодным скарыстанне магазіна Белпрамгандля пад амерыканку Швейсаюза. Улічыць аднак, што нядаўна гэты магазін быў абсталяваны, дазволіць Горунутгандлю скарыстаць гэты магазін пад промтаварны гандаль ці камісійны магазін, пры ўмове прадстаўлення Швейсаюзу памяшкання для амерыканкі ў цэнтры горада.

Ларкі па г. Віцебску скарыстаць па распараджэнню Горунутгандля.

### па г. Бабруйску.

Магазін № 1 перадаць Швейпрамсаюзу пад амерыканку;

Магазін № 2 на базары—пад магазін гародніны Белхарчгандля;

Ларкі скарыстаць па распараджэнню Горунутгандля.

### па г. Гомелю.

Магазін № 1—перадаць Бытсаюзу пад гандаль вырабамі Бытсаюза.

Магазін № 2 і астатнія ларкі скарыстаць па распараджэнню Горунутгандля.

### па г. Барысаву.

Магазін № 1 перадаць Белкалеспрамсаюзу для мэблевага гандля. Магазін № 2 перадаць Харчгандлю.

Магазін № 10 у Нова-Барысаве скарыстаць пад пашыраны магазін гародніны.

Астатнюю сець г. Барысава скарыстаць па ўгледжанню Горунутгандля.

### па г. Магілёву.

Магазін № 1 па Першамайскай вул. перадаць Белгандлю.

Астатнюю сець г. Магілёва скарыстаць па ўгледжанню Горунутгандля.

### па г. Оршы.

Магазін № 1 перадаць Швейсаюзу для гандля вырабамі Швейсаюза. Астатнюю сець скарыстаць па распараджэнню Горунутгандля.

### па г. Полацку.

Магазін № 1 па Бухарынскай вул. перадаць Белгандлю.

Магазін № 2 на Базарнай плошчы перадаць Белгандлю.

Астатнія памяшканні Белпрамснабгандля скарыстаць па ўгледжанню Горунутгандля.

У сувязі з тым, што магазіны Белпрамснабгандля г. Полацка маюць вялікія памяшканні і прыгодны пад рэканструкцыю, камандзіраваць спецыяльнага работніка ў г. Полацк для вырашэння на месцы пытання аб прыёмцы паказаных вышэй 2-х магазінаў.

### Па Чашніках.

Чашніцкі магазін перадаць Віцебскаму Скурсаюзу.

4. Магазіны ў Крупках, Бярэзіна і Смалевічах перадаць Белкаапсаюзу для скарыстання пад гандаль вырабамі Белкалессаюза.

5. Сець у астатніх гарадох і раёнах скарыстаць па ўгледжанню Гор-Райунутгандляў на мясцох.

Нам. Наркамунутгандля БССР **ВЕРБА.**

Белпрамснабгандаль—
член Прэзідыума—**Адамчук.**

# Правілы гандля сухарамі з чорствага хлеба.

## I. Дастаўка чорствага хлеба ў хлебавыпекаючыя прадпрыемствы.

1. Чорствы хлеб, знаходзячыйся ў прадпрыемствах гандлюючых хлебам, і прадназначаны для сушкі на сухары, павінен, да здачы яго хлебавыпекаючым прадпрыемствам, хавацца паасобна ад свежага хлеба і іншых прадуктаў у адпаведных санітарных умовах.

2. Дастаўка чорствага хлеба ў хлебавыпекаючыя прадпрыемствы павінна вытварацца спецыяльна прадназначаным для перавозкі хлеба аўта-гужтранспартам за лік здаючага хлеб гандлюючага прадпрыемства.

3. Укладка чорствага хлеба для адпраўкі на хлебавыпекаючыя прадпрыемствы павіннна вытварацца ў спецыяльнай тары (скрынкі, латкі і зачыненыя кошыкі).

4. Транспартныя сродкі, тара брэзент для пакрыцця пераваз імага чорствага хлеба і г. д. павінны ўтрымацца ў чыстаце, аглядвацца і ачышчацца перад кожнай укладкай, пагрузкай і адпраўкай чорствага хлеба.

5. Перавозка свежага хлеба разам з чорствым а таксама перавозка чорствага хлеба ў ненакрытым відзе, або навалам, катэгарычна забараняецца.

6. Прыёмка чорствага хлеба на хлебавыпекаючых прадпрыемствах вытвараецца па вазе і па кожнаму гатунку паасобна.

7. Здача гандлёвымі прадпрыемствамі чорствага хлеба для пераапрацоўкі ў сухары дапускаецца толькі ў відзе цэльных хлебоў, а не кавалкамі і абрэзкамі.

8. Забараняецца скарыстанне ў пераапрацоўку на сухары хлебоў, якія не задавальняюць санітарным патрабаванням — заплеснелых, забруджаных, недобраякасных і забракованых санітарным наглядам.

## II. Дастаўка сухарэй з чорствага хлеба у гандлюючыя прадпрыемствы.

9. Укладка сухарэй з чорствага хлеба для адпраўкі іх гандлюючаму прадпрыемству вытвараецца ў спецыяльнай тары (скрынкі, латкі, або зачыненыя кошыкі) хлебавыпекаючым прадпрыемствам.

Увага: Дастаўка сухарэй у мяшк х катэгарычна забараняецца.

10. У тых выпадках, калі падача сухарэй з экспедыцыі вытвараецца праз латок, падноска іх ад акошка экспедыцыі вытвараецца за лік пакупацеля.

У тых выпадках, калі сухары прыходзіцца выносіць з экспедыцыі, падача іх на транспарт вытвараецца за лік хлебавыпекаючага прадпрыемства. Укладка на транспарт ва ўсіх выпадках вытвараецца за лік хлебагандлюючага прадпрыемства.

11. Скрынкі і зачыненыя кошыкі да ўкладкі ў іх сухарэй павінны быць выкладзены ўнутры з усіх бакоў і знізу палупергаментнай, або плотнай абёртачнай паперай, дастаўляемай у хлебапекарныя прадпрыемствы сродкамі і за лік хлебагандлюючых прадпрыемстваў. Пасля ўкладкі сухарэй яны павінны быць накрыты паперай таксама і зверху.

Перавозка сухарэй навалам катэгарычна забараняецца.

12. Перавозка сухарэй з чорствага хлеба ў розьнічную гандлёвую сетку павінна вытварацца з саблюдзеннем адпаведных санітарных правіл па перавозцы печанага хлеба.

13. Сухары з чорствага хлеба, паступаючыя ад хлебавыпекаючых арганізацый у розьнічную гандлёвую сетку, павінны па сваёй якасці адпавядаць устаноўленым стандартам, у прыватнасці, па надворнаму выгляду быць добра высушанымі, негарэлымі, без скразных трэшчын і мякіша, без прызнакаў плесені і заражонасці (картофельная хвароба) па смаку—без горачы і пастаронніх прыўкусаў, па запаху без затхласці.

14. Прыёмка сухарэй з чорствага хлеба вытвараецца гандлюючым прадпрыемствам па вазе ў адпаведнасці з нормамі выхада гатовых сухарэй, устаноўленымі пастановай Наркамунутгандля СССР ад 16/VI-35 года № 632 „Аб цэнах на сухары з чорствага хлеба“.

## III. Хаванне сухарэй у гандлёвым прадпрыемстве.

15. Паступаючыя ў гандлёвыя прадпрыемствы сухары павінны хавацца ў падсобным памяшканні гандлёвага прадпрыемства, або ў тары, у якой яны былі дастаўлены, або перакладзены ў іншыя скрынкі, кошыкі, або на латкі з саблюдзеннем санітарных правіл.

16. Падсобнае памяшканне для хавання сухарэй павінна быць сухім, чыстым і добра венціліруемым і снабжоным сцелажамі і полкамі для кошыкаў, латкоў і скрынак.

17. Скрынкі ўстанаўліваюцца на сцелажах штабелямі і павінны адстаяць ад сцен падсобнага памяшкання не менш чым на 0,5 метра. Паміж паасобнымі радамі скрынак павінен быць астаўлен свабодны прамежутак для прахода паветра не менш чым у 0,25 метра.

18. У летні час полкі ў падсобным памяшканні павінны быць завешаны матэрыяй, або марлей, а таксама павінен быць пакрыт матэрыяй, або марлей верхні рад адчыненых скрынак і латкоў.

## IV. Продаж сухарэй.

19. Рознічны гандаль сухарамі з чорствага хлеба можа вытварацца ва ўсіх прадпрыемствах, гандлюючых хлебам, а таксама ў змешаных прадавольственных магазінах пры ўмове хавання іх паасобна ад іншых прадуктаў.

Увага: Магазіны сістэмы „Гастраном“ і „Бакалея“ могуць уключаць у свой асартымент сухары толькі з высокасортных булачных вырабаў.

20. Сухары з чорствага хлеба хаваюцца ў гандлёвым залі ў выдвіжных скрынках, ларах, або зачыненых кошыках.

21. Сухары, выстаўленыя ў вітрынах гандлёвага прадпрыемства, павінны ўкладвацца ў невялікія кошыкі, вазы, латкі і г. д. У летні час паказаныя кошыкі, вазы і латкі павінны пакрывацца шклянымі калпакамі, або марляй.

22. Пры водпуску сухарэй прадаўцы павінны карыстацца шчыпцамі, або лапатачкамі.

23. Одпуск сухарэй пакупніку павінен вытварацца чыстай вагой у паперовых пакетах.

24. Гэтыя правілы павінны быць даведзены да ведама ўсіх работнікаў гандлёвага прадпрыемства, звязаных з продажам сухарэй.

# СУРОВА ПРЫТРЫМЛІВАЦЦА ПРАВІЛ ГАНДЛЮ СПІРТНЫМІ НАПІТКАМІ І ПІВАМ

**Пастанова Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля Беларускай ССР.**

7/IX-35 г. **№ 585** г. Менск.

§ 1 Усім гандлёвым Дзяржаўным і Кааперацыйным арганізацыям, таксама арганізацыям грамадскага харчавання накіроўваюцца **„правілы гандля спіртнымі напіткамі і півам"**, зацверджаныя пастановай Наркамунутгандля Саюза ССР ад 27/VIII-35 г. № 819.

§ 2 Гэтыя правілы гандля спіртнымі напіткамі і півам уводзяцца з 20/IX-1935 года.

§ 3 Усім дзяржаўным і кааперацыйным гандлёвым арганізацыям, а таксама арганізацыям грамадскага харчавання шырока апавясціць усе свае падпарадкаваные гандлёвые прадпрыемствы аб безпрыкаслоўным выкананні гэтай пастановы.

§ 4 Наркамунутгандаль БССР растлумачвае, што забарона распівачнага гандля півам у магазінах не распаўсюджваецца на спецыяльныя магазіны, гандлюючыя толькі прахладжальнымі напіткамі і півам.

§ 5 Гор-Райунутгандлям прасачыць за выкананнем гэтай пастановы.

Нам. Народнага Камісара
Ўнутранага Гандля Беларускай ССР
**ВЕРБА.**

*Дадатак да пастановы НКУГандля СССР ад 27/VIII-35 г. № 819.*

# ПРАВІЛЫ ГАНДЛЯ СПІРТНЫМІ НАПІТКАМІ І ПІВАМ.

## 1. Агульныя палажэнні.

1. Гандаль спіртнымі напіткамі (водкай, водачнымі вырабамі і віном), а таксама півам, можа вытварацца толькі гандлёвымі дзяржаўнымі і кааперацыйнымі арганізацыямі.

Калгасам дазваляецца вытварацы гандаль толькі натуральным віном (вінаградным і плодаягадным) уласнага выраба з прадукцыі сваёй сельска-гаспадарчай вытворчасці.

Калгаснікам і працоўным аднаасобнікам дазваляецца прадаваць натуральнае віно ўласнага выраба з прадукцыі сваёй сельска-гаспадарчай вытворчасці на рынках—з рук, з латкоў, з вазоў і г. д., а таксама з свайго дома без устройства, аднак, асобага гандлёвага памяшкання.

2. Гандаль спіртнымі напіткамі забараняецца:

а) Ва ўсіх сталовых, буфетах і ларках, знаходзячыхся ўнутры заводскага прадпрыемства або ўстановы;

б) Ва ўсіх рабочых клубах, дзе не маецца спецыяльных рэстаранных прадпрыемстваў;

в) У відовішчных прадпрыемствах, дзе няма спецыяльных рэстаранаў.

У в а г а: Гэта забарона не распаўсюджваецца на буфеты ў летніх садах.

г) У рэстаранах і буфетах, абслугоўваючых фізкультурнікаў, пры стадыёнах водных, станцыях і інш. фізкультурных установах.

У в а г а: Гэта забарона не распаўсюджваецца на спецыяльныя рэстаранныя прадпрыемствы, абслугоўваючыя гледачоў на стадыёнах, водных спартыўных прыстанях і г. д.

д) На станцыях метрапалітэна.

3. Гандаль півам забараняецца ва ўсіх сталовых, буфетах і ларках, знаходзячыхся ўнутры заводскага прадпрыемства, або ўстановы.

4. Распівачны гандаль спіртнымі напіткамі дапускаецца толькі ў прадпрыемствах харчавання, дзе сумесна з спіртнымі напіткамі прадаецца і харч.

5. Распівачны гандаль спіртнымі напіткамі ў магазінах, ларках і палатках гандлёвай сеткі—забараняецца. Таксама забараняецца распівачны гандаль півам у магазінах.

6. Разносны гандаль спіртнымі напіткемі і півам не дапускаецца.

## 2. Прыёмка тавара.

7. Прыёмка спіртных напіткаў павінна вытварацца па магчымасці ў падсобным памяшканні.

8. Прыёмка вытвараецца дырэктарам магазіна (прадпрыемства грамадскага харчавання) або заг.

палаткай, або па іх даручэнню, апрадзелёнымі работнікамі данага прадпрыемства. Матэрыяльную адказнасць па прыёмцы нясуць асобы, якія фактычна яе вытвараюць.

9. Акрамя праверкі колькасці напіткаў, прыёмшчык абавязан праверыць укупорку напіткаў, налічча этыкетак і штэмпелей. Прыёмка па якасці вытвараецца ў адпаведнасці з парадкам, прадугледжаным догаварам з пастаўшчыком, або ў адпаведнасці з інструкцыяй Дзяржарбітража пры СНК СССР ад 2/1-35 г. „Аб парадку і тэрмінах прад'яўлення прэтэнзій пры пастаўках тавараў не належачай якасці аднымі дзяржаўнымі, кааперацыйнымі і грамадскімі арганізацыямі—іншым".

## III. Хаванне спіртных напіткаў і піва.

10. У магазінах, гандлюючых спіртнымі напіткамі, маючыяся запасы спіртных напіткаў павінны быць растаўлены або разложаны на полках з групіроўкай па гатункам напіткаў і па размерам пасуды. Вінаградные віна, як агульнае правіла, павінны хавацца ў ляжачым выглядзе.

11. Спіртныя напіткі павінны паступаць у продаж у парадку іх атрымання ў магазіне, г. зн., раней атрыманые павінны прадавацца ў першую чаргу.

Пры растаноўцы напіткаў на полках неабходна растаўляць іх з такім разлікам, каб раней атрыманые напіткі магчыма было адпускаць пакупнікам у першую чаргу.

12. Пры ўстаноўцы напіткаў на полкі яны павінны пераглядацца і пасуда перацірацца.

13. Хаванне напіткаў у гандлёвым залі ў скрынках і продаж іх з скрынак не дапускаецца.

14. Забараняецца разбаўленне спіртных напіткаў і піва якімі небудзь вадкасцямі, дабаўленне да напіткаў якіх небудзь вяшчэстваў хаця і няшкодных для здароўя, а таксама змяшэнне напіткаў розных заводаў.

Увага: Гэта забарона не распаўсюджваецца на прыгатаўленне напіткаў па спецыяльным кулінарным рэцэптам (крюшон, глінтвейн і г. д.).

15. Забараняецца перакачванне віна і піва з гандлёвых бочак у другую тару. Одпуск піва з бочак дазваляецца толькі пры дапамозе насоса пад даўленнем газа, або праз спецыяльны кран.

16. Забараняецца ахалоджванне спіртных напіткаў і піва шляхам пагружэння ў яго ільда. Лёд павінен змяшчацца ўне сасуда або другой тары, у якой знаходзяцца спіртныя напіткі, або піва.

17. Пры гандлі півам у разліў, тэмпература піва павінна быць у межах ад 8 да 12°.

18. У магазінах дапускаецца хаванне піва не звыш 7 дзён.

19. У мэтах папярэджання псавання піва, забараняецца хаванне бутылак з півам ў вітрынах.

20. Бочкі ад віна ці піва пасля апаражнення іх павінны абавязкова закупорвацца пробкамі.

21. У выпадку боя пасуды або выкрыцця спіртных напіткаў ці піва ў папсаваным выглядзе, заг. магазінам або прадпрыемствам грамадскага харчавання абавязан складзці акт, пры ўдзеле прадстаўнікоў вышэйстаячай арганізацыі з ужываннем „Правіл аб складанні актаў і парадка спісання па бою, псаванню тавараў (або тары) і па завесу тары ў розьнічных гандлёвых прадпрыемствах", зацверджаных пастановай НКУГандаля СССР ад 15/VII-35 г. № 628.

## IV. Одпуск спіртных напіткаў.

22. У памяшканні магазінаў пакупнікам не дазваляецца раскупорваць пасуду з вырабамі і распіваць іх.

23. Паводле магазіна не дапускаецца скупка парожней пасуды і распіццё спіртных напіткаў і піва. Упуск пакупнікоў спыняецца за 15 хвілін да зачынення магазіна.

24. Одпуск спіртных напіткаў асобам у нетрэзвым выглядзе і непоўналетнім—забараняецца.

25. Пры распівачным гандлі спіртнымі напіткамі ў прадпрыемствах харчавання, напіткі павінны адпускацца румкамі, шклянкамі, стопкамі, кружкамі, або ў іншай пасудзе любой формы, але стандартнай ёмкасці.

26. Пры водпуску спіртных напіткаў у разліў і распівачна—забараняецца недастаткова напаўненне меркі або пасуды.

## V. Прэйскурант і цэны.

27. У магазінах, у якіх вытвараецца продаж спіртных напіткаў і піва, павінен быць вывешан на відным мейсцы прэйскурант маючыхся ў продажу спіртных напіткаў, з паказаннем цэн вырабаў разам з пасудай.

Акрамя таго, выстаўленыя тавары павінны быць снабжаны ярлыкамі цэн.

28. Прадпрыемствы грамадскага харчавання, гандлюючыя спіртнымі напіткамі і півам, павінны мець прэйскурант спіртных напіткаў і піва ў дастатковай для карыстання спажыўцамі колькасці.

29. Цэны на напіткі, адпускаемые распівачна ў прадпрыемствах грамадскага харчавання, павінны апрадзяляцца не па віду і формы пасуды, а па колькасці вадкасці, улітай у пасуду, аб чым павінна быць паказана ў прэйскуранце.

## VI. Упакоўка і пасуда.

30. Одпуск спіртных напіткаў спажыўцам на вынас дапускаецца толькі ў стандартнай пасудзе, у ёмкасцях і формах, устаноўленых Наркамунутгандлем СССР.

31. У тэксце друкаваных этыкетак спіртных напіткаў і піва павінна быць абазначана:

а) назва напітка;

б) назва вытвараючай напітак арганізацыі;

в) ёмкасць пасуды (ёмкасць пасуды можа быць абазначана паасобнымі наклейкамі, або штэмпелямі).

Увага: 1. На этыкетках пасуды з вінаградным віном можа быць таксама номер віна, прысвоены яму вінавытвараючай арганізацыяй.

2. На этыкетках пасуды з водкай павінна быць таксама ўказана крэпасць напітка (40, 50, 56°).

3. На этыкетках пасуды з 40° водкай павінна быць надрукавана або праштампелевана асобна цана водкі, пасуды і пробкі.

32. Водка адпускаецца на вынас толькі ў апечатанай пасудзе з непапсаванай—пячаткай завода. Водачныя вырабы адпускаюцца або ў апечатанай пасудзе, або ў пасудзе з капсулямі.

33. Вырабы з папсаванай укупоркай, а раўна вырабы недабраякасныя (мутныя, сорныя, з якім небудзь адстоем, або афарбоўкай і г. д.) у продаж дапушчаны быць не могуць.

34. Непашкоджаная пасуда з-пад спіртных напіткаў і піва стандартнага абразца і пробкі павінна прымацца магазінамі ад пакупніка ў неабмежаванай колькасці, як у абмен на гатовые вырабы, так і на грошы, з аплатай поўнага кошта пасуды і коркавай пробкі, не залежна ад таго, ці набыта прынесеная пасуда ў даным або іншым магазіне.

Увага: Не падлягае прыёму пасуда забруджаная газай, жырам і г. д.

## VII. Гадзіны гандля

35. Гандаль спіртнымі напіткамі і півам у спецыялізаваных водачных, вінных і піўных магазінах вытвараецца ў дні і гадзіны, устанаўліваемые мясцовымі выканкомамі па прадстаўленню адпаведных Аддзелаў Унутранага Гандля.

Гандаль жа спіртнымі напіткамі і півам у прадтаварных магазінах і прадпрыемствах грамадскага харчавання вытвараецца ва ўвесь час гандля і адпуска харча ў гэтых магазінах і прадпрыемствах.

Увага: Мясцовыя выканкомы па свайму угледжанню ўстанаўліваюць асобныя дні (дні свят, траура і г. д.), калі забараняецца прадаваць спіртныя напіткі і піва.

---

# Аб выбарцы фондаў газы.

## ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

25/VIII-1935 года № 545 г. Менск.

Маючыяся фанды газы для шырокага рынка ў большасці раёнаў не пакрываюць поўнай патрэбнасці насельніцтва, аб чым сведчыць рад сігналаў з боку райунутгандляў. Між тым выдзеленыя фонды газы для шырокага рынку поўнасцю не выбіраюцца, чым яшчэ больш абвастраецца справа забяспечання газай насельніцтва.

Лічачы такое становішча зусім недапушчальным—Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР—пастанаўляе:

1. Абавязаць Нафтазбыт прадстаўляць Наркамунутгандлю два разы ў месяц—15 і 1-га кожнага м-ца звесткі аб фактычнай выбарцы газы па кожнай гандлюючай сістэме ў паасобку;

2. Абавязаць Горунутгандляў і старш. Інспектара Ўнутранага Гандля ўзяць пад свой асабісты нагляд выбарку фондаў па газе, забяспечыўшы 100 % выбарку фондаў; пры не выбарцы фондаў адной гандлюючай арганізацыі прадставіць права Райунутгандлям перадаваць фонды іншым арганізацыям, якія забяспечаць выбарку фондаў;

3. Папярэдзіць кіраўнікоў гандлюючых сістэм, што яны нясуць персанальную адказнасць за 100 % выбарку фондаў газы і пры выяўленні не выбаркі фондаў—яны будуць прыцягнуты да адказнасці, як за зрыў забяспечання працоўнага насельніцтва газай.

4. Прапанаваць Нафтазбыту забяспечыць беспераболйную выдачу газы для шырокага рынку без усякіх затрымак; гандлюючыя арганізацыі своечасова паведамляюць Наркамунутгандаль БССР аб усякіх затрымках выдачы газы фонда шырокага рынка.

5. Прод. Аддзелу Наркамунутгандля БССР штомесячна дакладваць мне асабіста аб ходзе выбаркі газы за мінулы месяц для прыняцця адпаведных мер.

Нам. Наркома Ўнутранага
Гандля БССР **І. ВЕРБА.**

# Аб палепшанні работы хлебнай гандлёвай сеці і падрыхтоўкі яе да зімовай работы

## ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

27-га жніўня 1935 г. №551 г. Менск.

У мэтах палепшання работы хлебнай гандлёвай сеці, падняцця ўзроўня культурнага гандля хлебам, забяспечання своечасовай дастаўкі хлеба ў магазіны і падрыхтоўкі хлебагандлюючай сеці і транспарта да ўмоў зімней работы Наркамунутгандаль БССР, Прэзідыум Белкаапсаюза, ЦПпрафсаюза работнікаў Дзяржгандля і ЦПпрафсаюза работнікаў кааперацыі—ПАСТАНАЎЛЯЮЦЬ:

1. Абвясціць з І/ІХ-па І/Х 35 г. месячнік па палепшанню работы хлебагандлюючай сеці і падрыхтоўкі яе хлебнага транспарта да зімней работы.

2. Прыняць ніжэйнаступную праграму работ камісіі па правядзенню месячніка.

### 1. Па палепшанню работы хлебагандлюючай сеці.

а) Санітарнае становішча
б) Своечасовасць дастаўкі хлеба ў магазіны
в) Абслугоўванне спажыўца
д) Забяспечанне сеці неабходным асартыментам хлеба і белабулачных вырабаў
д) Афармленне вітрын, бутафорыя.

### 2. Па падрыхтоўцы да зімы:

а) Атапленне (печы, апал, пажарная беспечнасць і, дзе магчыма, электрапечы).

б) Ацяпленне (агляд вакон, дзвярэй, а дзе патрэбна заканапаціць, аштукатурыць, устроіць тамбуры) і забяспечанне хавання хлеба ў тэмпературы не ніжэй 6° Ц.

в) Санітарыя, прыстасаванне для выціраньня ног, палавікі, узмацненне ўборкі падлог зімой, ачыстка ад нанасімага снега, гразі і т. п.

г) Зімняя прозвопратка (забяспечанне тэй часткі, якая паложана па калдагавору, дапамога прадаўцам у набыцці за свой рахунак).

д) Падрыхтоўка транспарта да зімовых перавозак хлеба (прыстасаванне кузаваў, загатоўка і прыстасаванне саней, зімняя прозвопратка і г. д.) і забяспечанне вытворчасці зімніх перавозак у размерах не ніжэй летніх.

е) Вітрыны: забяспечанне на зіму, агляд хлебных вітрын у спецыялізаваных магазінах, шляхам прыняцца спецыяльных мер для адтаівання вакон.

3. Прапанаваць Гор. Райунутгандлям на мясцох стварыць камісіі па правядзенню месячніка ў адпаведнасці з вышэйпаказанай праграмай, у складзе: прадстаўнікоў профарганізацый хлебавыпякаючых і хлебагандлюючых арганізацый, пад старшынством Гор. Райунутгандля.

4. Прапанаваць камісіям пры правядзенні месячніка ўзмацніць практыку соцспаборніцтва паміж гандлюючымі сістэмамі і асобнымі магазінамі, мабілізуючы ўвесь актыў работнікаў на лепшае правядзенне месячніка.

5. Абавязаць Белхарчгандаль і яго мясцовыя органы, мясцовыя арганізацыі патрэбкааперацыі, ОРС'ы НКЦяжпрома, НКМясцпрома, НКЛеса, НКПС, НКВода і іх мясцовыя арганізацыі—неадкладна ўключыцца ў правядзенне месячніка і забяспечыць у межах асыгнаванняў на бягучы рамонт патрэбныя мерапрыемствы, выцякаючыя з мэт і задач месячніка.

6. Камісіям скончыць усю работу да 5/Х-35 г. с тым, каб:

а) да 10/IX-праверыць становішча кожнага магазіна і спецыяльным актам распрацаваць патрэбныя мерапрыемствы па кожнаму магазіну;

б) з I/X па 5—правесці суцэльную праверку выканание даных указанняў;

в) не пазней 15/IX-35 г. інфармаваць НКУнутрангандаль і Белкаапсаюз аб выніках першай праверкі, а 10/Х 35 г.—аб выніках усяго месячніка.

Усе бягучыя пратаколы камісіі ў працягу верасня мес. Горрайунутгандлі абавязаны сістэматычна накіраваць у Наркамунутгандаль БССР.

Нам. Наркома Унутранага
Гандля БССР. **І. Верба.**

---

## Новыя найменаванні гатункаў сыраў

### ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

**3/IX-35 года** **№ 575** **г. Менск.**

На падставе тэлеграмы Саюзнаркамунутгандля № 730—Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР—ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1. Устанавіць наступныя новыя найменаванні гатункаў сыроў узамен дзейнічаючых:

1. Экстра
2. Вышэйшы гатунак
3. Першы гатунак
4. Другі гатунак

2. Дзейнічаючыя аптова-адпускныя і рознічныя цэны на сыры прымяніць да новых найменаванняў гатункаў.

На гатунак экстра распаўсюджыць цэны былога вышэйшага гатунка.

На вышэйшы гатунак цэны былога першага гатунка.

На першы гатунак цэны былога другога гатунка.

На другі гатунак—цэны былога трэцяга гатунка.

Нам. Наркома Ўнутранага Гандля БССР **І. ВЕРБА**

---

## Аб забяспечанні гарадоў БССР семечковымі пладамі

### ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыяту Ўнутранага Гандля БССР

**5/IX-35 г.** **№ 577** **г. Менск.**

У сувязі з тым, што вызначаны СНК БССР цэнтралізаваны фонд семячковых пладоў для гарадоў БССР у колькасці 1050 тон не задавальняе патрэбнасьць гандлюючых арганізацый для разгортвання шырокага гандля семечковымі пладамі, і асабліва у г. г. Менска, Віцебска, Гомеля—Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР і Упаў. Кам. Заг. СНК СССР па БССР—ПАСТАНАЎЛЯЮЦЬ:

1. Абавязаць Белкаапплодагародніну тав. ЗЕЛІЧОНКА загатовіць ў дэцэнтралізаваным парадку 900 тон яблак і здаць для рэалізацыі

Менску . . . . . . . 600 тон
Гомелю . . . . . . . 200 „
Барысаву . . . . . . 100 „

2. Абавязаць Белзаготплодагародніну тав. АНІКЕЙЧЫКА загатовіць ў дэцэнтралізаваным парадку 700 тон яблак і здаць для рэалізацыі

Віцебску . . . . . . . 400 тон
Менску . . . . . . . 300 „

3. Абавязаць загадчыкаў Гор. Райунутгандляў Менска т. САФ'ЯНА, Гомеля тав. ШТЭЙНЕРА, Віцебска т. МОІНА, Барысава т. ПАХОМАВА і Райупаўкамзагаў гэтых раёнаў на працягу 2-х дзён размеркаваць вылучаную ім колькасць семечковых пладоў па гандлюючым арганізацыям і паведаміць аб гэтым Белкаапплодгародніну і Белзаготплодагародніну для заключэння з апошнімі дагавароў на атрыманне семечковых пладоў.

4. Забараніць ЦРК, ЗРК і ОРС'ам прадаваць оптам як унутры рэспублікі, так і за межы БССР семечковыя плады як уласных садоў, гэтак і дэцзагатовак. Папярэдзіць кіраўнікоў вышэйпаказаных арганізацый, што ў выпадку абнаружэння фактаў продажы яблак оптам, віноўныя будуць прыцягнуты да самай стражайшай адказнасці.

5. Прадставіць права Горунутгандлям у выпадку нерэалізацый маючыхся фандоў адной гандлюючай

сістэмай, перадаваць гэтыя фонды іншым гандлюючым арганізацыям.

6. Прадставіць Белзаготплодагародніне і Белкаплодагародніне права беспераціпкодна праводзіць дэцзагатоўкі семечковых пладоў у зонах, замацаваных па дэцзагатоўкам беларускім арганізацыям, са здачай поўнасцю гэтых яблак у лік фонда па п. п. І і 2 гэтай пастановы.

Устанавіць, што БЗПГ і БКПГ праводзяць дэцзагатоўку семечковых пладоў у раёнах іх дзейнасці па цэнтралізаванаму фонду.

7. Устанавіць, што БКПГ выконвае свае дагаворы з гарадамі БССР за лік дэцзагатовак у зонах беларускіх арганізацый і за лік 40—60% застаючыхся у яго распараджэнні ва усіх астатніх зонах яго дзейнасці, а БЗПГ выконвае свае дагавары з гарадамі БССР за лік сваіх дэцзагатовак, поўнасцю застаючыхся ў яго распараджэнні.

Нам. Наркома Ўнутранага Гандля БССР **І. ВЕРБА.**

Нам. Упаў. Кам. Заг.
СНК СССР па БССР **В. ТУРЭЦКІ.**

# ЦЭНЫ

## На гаспадарчае мыла ўведзена адзіная адпускная цана

### ЗАГАД

### Па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля БССР

**26 жніўня 1935 г.** **№ 303** **г. Менск.**

1. На падставе дзейнічаючых нармальных і камерцыйных цэн на гаспадарчае мыла ўвесці адзіную адпускную цану на гаспадарчае мыла (франко станцыя прыстань назначэння)

| | | | |
|---|---|---|---|
| а) Вышэйшы гатунак | . 72% | 4850 | руб. за тону |
| б) Вышэйшы гатунак | . 60% | 3650 | „ „ „ |
| в) Першы гатунак . . | . 50% | 2850 | „ „ „ |
| г) Другі гатунак . . | . 40% | 2250 | „ „ „ |

2. Устанавіць гандлёвую накідку на гаспадарчае мыла, прадаваемае ў горадзе—12%, ў сяле—15%.

3. Устанавіць адпускную цану: на жыдкае туалетнае мыла за 1000 флаконаў расфасоўкі па 200 гр. кожны—1500 руб.

| | | |
|---|---|---|
| Жыдкае гаспадарчае мыла . . . . | 810 р. | за тону |
| Сціральны парашок I сорта . . . | 700 р | „ „ |
| „ „ II сорта . . . | 530 р. | „ „ |

Размер гандлёвых накідак на жыдкае мыла і сціральны парашок устанаўляецца гандлюючымі арганізацыямі і даводзіцца да ведама Наркамунутгандля.

4. Пераацэнку гаспадарчага мыла, цвёрдага, жыдкага і туалетнага жыдкага мыла, а таксама сціральнага парашка—утварыць па актам зняцця таварных астаткаў 31/VIII—35 г. і новыя цэны ўвесці з 1-га верасня 1935 года.

Розніцу ад пераацэнкі мыла комфонда аднесці за рахунак дзяржбюджэта нармальнага фонда і ўнесці ў дзяржбюджэт. Акты пераацэнкі завяраюцца па дзяржгандлю: загад. магазіна і прадстаўнікам гандлюючай арганізацыі, па спажывецкай кааперацыі заг. магам і членам рэв. камісіі Сельпо, ЗРК, ЦРК і па ОРС'ам—заг. магам і прадстаўнікам рабочага кантроля прадпрыемства.

5. Пры перавозке мыла і сціральнага парашка звыш 5 кіламетраў ад чыгуначных станцый і водных прыстаней, акрамя ўстаноўленай гандлёвай накідкі, дабаўляецца накідка на аўтагужперавозкі, размер якіх будзе паведамлен асобна.

Нам. Народнага Камісара Ўнутранага
Гандля БССР **і. Верба**

## Адпускные і рознічныя цэны на калбасу выпрацоўваемую з супрадуктаў

### ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

**27/VIII-35 года.** **№547** **г. Менск.**

Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР—ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1. Устанавіць аптова-адпускную цану на калбасу шырспажыва, выпрацоўваемую прадпрыемствамі Белмясапрамтрэста (франко-склад прадпрыемства) у рублях і капейках за кгр:

| | |
|---|---|
| 1. Паўкапчоная літоўская III сорт . . . | 6—60 |
| 2. Ліверная мюнхенская „ „ . . . | 4—80 |

2. Устанавіць продажную рознічную цану на калбасу шырспажыва, выпрацоўваемую прадпрыемствамі Белмясапрамтрэста з супрадуктаў I, II, III катэгорыі (у руб. і кап. за кгр.)

| | |
|---|---|
| Ліверная капчоная I сорт . . . . | 10—00 |
| „ вараная „ . . . . | 9—70 |
| Паўкапчоная літоўская III „ . . . . | 7—20 |
| Ліверная мюнхенская „ „ . . . . | 6—00 |

3. Устанавіць, што рэалізацыя калбасы з супрадуктаў утвараецца ў парадку адкрытай продажы праз розніцу Белмясапрамтрэста і Белхарчгандля.

Нам. Наркома Ўнутранага
Гандля БССР **І. ВЕРБА**

Выданне Наркамунутгандля БССР—Дом Урада, 4-ы паверх, пак. 405, тэл. 23-287.
Адк. рэдактар І. І. Верба. Адк. сакратар рэдакцыі В. Адлерштэйн.

Школа ФЗВ друкарні ім. Сталіна. Зак. 1057. Тыраж 1500 экз. Галоўлітбел № 2935.